*Ярмолека А.С.* «Украінскае пытанне» на старонсках расійскіх кансерватыўных часопісаў у апошняй чвэрці XIX — пачатку XX ст. / С.А. Ярмоленка // Российские и славянские исследования : науч. сб. Вып. 7 / редкол. : А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [ и др.]. — Минск : БГУ, 2012. С. 123-130.

**А. С. Ярмоленка**

# «УКРАІНСКАЕ ПЫТАННЕ» НА СТАРОНКАХ РАСІЙСКІХ КАНСЕРВАТЫЎНЫХ ЧАСОПІСАЎ У АПОШНЯЙ ЧВЭРЦІ XIX — ПАЧАТКУ XX ст.

Пашырэнне ў Расіі нацыяналістычнага ладу мыслення ў другой палове XIX ст. спрыяла дэлегітымізацыі ўкраінафільства ў вачах дасведчанага рускага грамадства. Палеміка ў прэсе ў апошняй чвэрці XIX – пачатку XX ст. адлюстравала адзін з этапаў складання ўсходнеславянскіх нацый. Прадстаўнікі розных кірункаў рускай грамадскай думкі (лібералы, кансерватары і народнікі) у пошуках аргументаў звярталі ўвагу на аналагічныя працэсы ў далёкіх і блізкіх краінах. Аргументы на карысць тых або іншых высноў адносна перспектыў «высокай» украінскай культуры знаходзілі, у тым ліку, у сучасным для іх стане нацыянальнага быцця беларусаў. Абмеркаванне «ўкраінскага пытання» рыхтавала чытацкую аўдыторыю да ўспрымання беларускага нацыянальнага руху. Напрыклад, пісьменнік М. дэ-Пуле ў 1881 г. на старонках найбольш уплывовага кансерватыўнага часопіса «Русский вестник» разважаў: «Если дать (свабоду ўкраінскай літаратурнай мове. – *А. Я.*), то и белорусскому наречию надобно дать тот же простор, и тогда у нас появятся три языка: русский, малорусский и белорусский. Но скажут: “особых белорусских писателей еще нет. У них нет еще своих ни Шевченок, ни Костомаровых, ни Кулишей!” – Нет теперь, ответим, но появятся после; пример Малороссии непременно вызовет их. Притом же как отказать белоруссам в их лингвистическом сепаратизме (если он появится), когда они, как позже присоединенные, почти не принимали никакого участия в создании нашего литературного языка?» [1, с. 227].

Кансерватыўныя публіцысты, якія выступалі ў друку па «ўкраінскім пытанні», у асноўным былі абавязаны ўкраінскім землям ці паходжаннем, ці набытай адукацыяй (як М. дэ-Пуле), або менавіта там ажыццяўлялася іх прафесійная і грамадская дзейнасць. Здаралася, што высвятленне адносін у сталічнай прэсе працягвала мясцовыя спрэчкі з украінскімі актывістамі. Каб прыцягнуць увагу цэнтральнай улады да грамадскай дзейнасці ўкраінскай грамады Кіева, старшыня Кіеўскага аддзела славянскага камітэта М. Рыгельман і прафесар Кіеўскага ўніверсітэта С. Гагоцкі выступілі са старонак «Русского вестника» з крытыкай дамаганняў украінскага нацыянальнага руху. Асабістыя прэтэнзіі далёка не ва ўсіх выпадках былі асноўным матывам выступу супраць украінафільства. Надрукавацца ў праўрадавым часопісе па актуальнай тэме азначала засведчыць лаяльнасць, зарабіць пэўную рэпутацыю.

Зразумела, меў месца і светапоглядны канфлікт, бо ўкраінскі нацыянальны рух кідаў выклік адукаванаму грамадству Маларосіі, прапануючы перагледзець асновы нацыянальнага светаўспрымання, засвоенага праз сацыялізацыю ў імперскай сістэме шляхам перамяшчэння цэнтра ўвагі на «перыферыю» — на пытанні ўкраінскай этнічнасці, мовы, культуры, гісторыі і інш. Выклік быў дастаткова моцны, каб атрымаць жывую рэакцыю з месцаў. І тыя, каго задавальняла формула трыадзінай рускай нацыі (з украінцамі і беларусамі ўключна), дакладна ведалі, куды звяртацца — «Русский вестник» і іншыя кансерватыўныя выданні амаль заўсёды былі гатовы прапанаваць свае старонкі выкрывальнікам рэальнага ці ўяўнага літаратурнага ды палітычнага сепаратызму.

Натуральна, кансерватыўная думка насцярожана ставілася да новых з’яў грамадскага жыцця, тым болей нацыянальных рухаў, здольных у перспектыве зруйнаваць асновы звык-

**Ярмоленко Антон Сергеевич —** аспирант кафедры истории России Белорусского государственного университета

лага культурнага асяроддзя — сістэмы адукацыі і моўнай камунікацыі, змяніць да непазнавальнасці змест гістарычнай свядомасці і г. д. Такім чынам, атака на парасткі ўкраінскага нацыянальнага руху была запраграмавана па ўсім «фронце» публіцыстычнага супрацьстаяння.

Кансерватыўная думка абараняла традыцыйнае імя Русі для паўднёвага захаду імперыі, маючы на ўвазе пад «Украйной» толькі геаграфічную назву мясцовасці. «Украйна» прызнавалася даволі позннім найменнем тэрыторыі на поўдзень ад Кіева, памежнай часткай гістарычнай Русі — да таго ж пазней населенай [2, с. 414]. З гэтага арганічна вынікала непрыняцце апелявання ўкраінафільства да простанароддзя — ад пакланення народу-герою і звяржэння з п'едэстала яго гістарычных правадыроў да занадта паважлівага стаўлення да элементаў народнай культуры. Жыць трэба праблемамі сённяшняга дня, а не ўчарашняга, сцвярджалі публіцысты-кансерватары. Таму няма неабходнасці ўваскрашаць з дапамогай гістарычных пошукаў даўно зблякую славу паўднёварускага казацтва, тым болей у якасці ўкраінскага, а не агульнарускага чыну. Праводзілася думка, што перыяд адасобленага жыцця Паўднёвай і Паўночнай Расіі — нешчаслівая старонка гісторыі, якую трэба найхутчэй забыць. А калі і варта звяртацца да гістарычных прыкладаў, то чэрпаць з іх трэба аргументы на карысць агульнапрынятых уяўленняў — аб супольным унёску ў будаўніцтва Расійскай імперыі.

Кансерватыўная думка адмаўляла існаванне падстаў для нейкай суб'ектнасці ўкраінства не толькі ў гісторыі, а і ў сучаснасці. Гэта не выклікала здзіўлення нават у слупоў украінафільства. Тым складаней кансерватарам было прыняць думку аб укаранёнасці ды натуральнасці ўкраінскага руху, які заявіў аб сабе ўсяго за пару дзесяцігоддзяў да пачатку разглядаемага перыяду. Ключавым для ўкраінафільства апошняй чвэрці XIX — пачатку XX ст. было пытанне аб сферы ўжывання ўкраінскай мовы. Кансерватыўная думка аспрэчвала прапанову ўвесці мясцовую гаворку нават у пачатковай школе для тлумачэння незразумелых велікарускіх слоў. Кансерватары адмаўлялі тоеснаць рускай літаратурнай і велікарускай гутарковай моў, разглядаючы першую як агульнарускую, створаную ў XVIII ст. маларусамі, якія пры яе распрацоўцы працавалі плённа. Паралельна са станаўленнем агульнарускай мовы адбывалася згасанне старога і маскоўскага, і заходнерускага (мала- і беларускага) пісьменства, а таксама царкоўнаславянскага. Зрабіўшыся мовай усёй рускай інтэлігенцыі, яна паўсюдна ў Расійскай дзяржаве была прыстасавана для любых інтэлектуальных запатрабаванняў. Таму маларусы мусяць прызнаць роднай рускую мову і задаволіцца тым, што ўкраінскае паходжанне пакідае незгладжальны акцэнт. Такім чынам, быццам бы ўкраінская мова не адыходзіць у нябыт, а працягвае існаванне, узбагачаючы дзяржаўную мову. Грамадзянскасць і культура ў XIX ст. рухаюцца з поўначы на поўдзень, з Пецярбурга і Масквы ў Кіеў і Харкаў. Таму, каб дасягнуць прагрэсу, жыхарам Паўднёвай Расіі трэба разам з вясковым касцюмам пакінуць і мужыцкую мову. А паколькі маларусы маюць сваю рускую мову, то дзейнасць па ўдасканаленні паўднёварускіх гаворак дзеля літаратурнай апрацоўкі — нішто іншае, як стварэнне штучнага і шкоднага культурнага прадукту. Публічнае ўжыванне ўкраінскай мовы ў горадзе як мовы пропаведзі ці адукацыі нібыта зневажае культурнага чалавека. Пісьменніцтва па-ўкраінску — доля другагатунковых талентаў (кшталту харкаўскіх рамантыкаў 1830—1840-х гг.), няздольных выбіцца ў валадары думак публікі, што чытае на рускай мове.

Асобным пунктам палемікі паміж кансерватарамі і іх апанентамі было пытанне аб перакладзе Святога Пісання на ўкраінскую мову. Дастатковым прызнаваўся пераклад толькі на рускую літаратурную мову. Прапанавалася дачакацца моманту, калі большасць народу стане пісьменнай, тады, маўляў, і вызначыцца, ці патрэбны народу дадатковыя пераклады. Кансерватары былі перакананы, што ў любым выпадку пры росце асветы найбольш запатрабаваным будзе царкоўнаславянскі арыгінал Святога Пісання [3, с. 858].

Улюбёны матыў разважанняў кансерватыўных публіцыстаў аб украінскай народнай мове — безнадзейная яе сапсаванасць польскім уплывам на супрацьвагу чыстай маскоўскай гаворцы. «Сапраўднай» літаратурнай мове патрэбны дзяржаўныя формы жыцця і палі-

тычная незалежнасць, што ў разглядаемы час было недасягальна свядомасці ўкраінафілаў і малявалася кансерватарамі дзеля нагнятання жахаў вакол украінскага руху. Наяўнасць абласніцкіх ці этнічных рухаў у Нямеччыне, Брытаніі, Францыі, на якія спасылаліся ўкраінафілы, праводзячы паралель з дыферэнцыяцыйным працэсам ва ўсходнеславянскім свеце, таксама не мела вагі ў вачах прыхільнікаў «адзінай рускай нацыі». Таксама і федэратыўнае ўладкаванне Аўстра-Венгрыі і Швейцарыі не магло служыць для іх узорам. Расію кансерватары ўяўлялі самабытнай краінай, дзе еўрапейскі досвед здаваўся дарэчным у галіне дзяржаўнай цэнтралізацыі і культывавання агульнанацыянальнага патрыятызму.

Прынцыповым для кансерватыўных публіцыстаў было пытанне аб тым, як ідэолагі ўкраінафільства пашыраюць кола адэптаў, вярбуюць прыхільнікаў нават у такіх пластах, як юнкерства і афіцэрства, якія здаваліся надзейна абароненымі ад прапаганды, варожай імперскаму рэжыму. Раскрыць гэту таямніцу на прыкладзе лёсу рускага афіцэра Т. Зінькоўскага чытачам «Русского вестника» ўзяўся філолаг-славіст і буйны спецыяліст па «инородцах» А. Будзіловіч, ураджэнец Гродзеншчыны. Для схілення да ўкраінафільства дастаткова, паводле А. Будзіловіча, тэндэнцыйных урокаў настаўніка гісторыі ў юнкерскім вучылішчы, знаёмства з парай украінскіх літаратараў. А таксама наведванне ўкраінафільскіх гурткоў, якія існавалі ледзь не ў кожным горадзе, дзе Т. Зінькоўскаму даводзілася бываць, — Адэсе, Умані, Кіеве, Санкт-Пецярбургу. Гэта, аднак, шлях да пагібелі, бо ўкраінафільства заражае незадаволенасцю светам, злосцю ды заходнімі ўплывамі. Нарэшце, служэнне ўкраінству вымагае шмат працы, якая і перанапружыла малады арганізм Т. Зінькоўскага, стала прычынай яго смерці [4, с. 340]. Хваробу, ад якой пакутаваў герой публікацыі, А. Будзіловіч паставіў апошняй сярод прычын заўчаснага скону «российского украйномана».

Самай важкай зброяй у арсенале кансерватараў супраць украінафілаў было абвінавачванне тых у імкненні да духоўнага, а пасля і палітычнага партыкулярызму ва ўсходнеславянскім свеце. Таму нярэдка ўкраінафілы абвяшчаліся ворагамі ўласнага народу, бо яны нібыта рыхтавалі мур непаразумення паміж веліка- і малярусамі, разлічвалі падзяліць геніяў літаратуры на «сваіх» і «чужых». Асобныя публіцысты распаўсюджвалі адказнасць за актывізацыю «фальшывага» (украінскага) руху на народ Паўднёвай Русі, які дапусціў такое «падзенне», бо меў устойлівыя заганныя рысы ў нацыянальным характары — беспрычынныя падазронасць і незадаволенасць, хваравітая раздражнёнасць. Так, у крытыцы ўкраінафілаў спалучыліся абвінавачванні псіхалагічнага і сацыяльнага характару [5, 846—847]. Атрымлівалася, што недалёкі народ паддаецца нядобрым уплывам, бо не можа самастойна адрозніць «штучныя» ідэі ад «сапраўдных». Ад таго лагічны наступны крок — выказаць здагадку, што няўдачнікі-ўкраінафілы, якія карыстаюцца не вельмі высокім аўтарытэтам, спрабуюць перарабіць народ пад свае густы, каб стаць для яго новай элітай.

На пытанне аб тым, што штурхала ўкраінафілаў рабіць нелагічныя з кансерватыўнага погляду крокі, існаваў і іншы адказ, акрамя версій аб тым, што ўкраінафілы — прылада падступнай замежнай інтрыгі або эгаістычная групоўка, што спрабуе ўзняць уласнае становішча ў грамадстве з дапамогай новапрыдуманай ідэалогіі. Гэты адказ, адкінуўшы неістотныя адрозненні, гучаў так: наіўныя ўкраінафілы вядуць справу асветы заблытанай сцежкай, таму іх прапановы толькі пагоршаць якасць адукацыі або прывядуць да яшчэ больш жаласнага выніку. Кошт высакароднай мэты адукавання простага люду шляхам раздраблення наяўных інтэлектуальных сіл праз стварэнне новай украінскай літаратуры разглядаўся як занадта высокі. Тут на паверхню выплывалі комплексы рускага кансерватызму — няўпэўненасць у непахісным становішчы рускай культуры і рускай мовы на захадзе імперыі, а таксама сумневы ў дастатковай прывабнасці цэнтральнага ядра нават для Падняпроўя — той перыферыі, што на афіцыйным узроўні традыцыйна адносілася да спрадвечнай Русі.

Акрамя крытыкі кансерватыўная думка пакідала асобам з «украіналюбнымі» схільнасцямі альтэрнатыву — згадзіцца на пачэснае месца саўдзельнікаў разбудовы вялікай дзяржавы і

культуры. Праводзілася думка, што паколькі магчымасці для творчай і навуковай рэалізацыі роўныя ва ўсіх «русаў», то непатрэбна і нейкае карпаратыўнае афармленне малярусаў. Лічылася, што погляд з такой перспектывы пазбавіць апанентаў права заяўляць аб нейкай дыскрымінацыі ўкраінцаў на ўзроўнях, вышэйшых за індывідуальны. Зазначым, што тэарэтыкі ўкраінафобства кшталту М. Каткова, не звязаныя біяграфічна з украінскімі землямі, рабілі сваю справу якасна ў літаратурным плане, а ў публіцыстычным мастацтве пераўзыходзячы кіеўскіх аднадумцаў. Рэдактар «Русского вестника», не вагаючыся, звязаў уздымы ўкраінскага руху з найбольшымі ўзрушэннямі расійскага палітычнага жыцця — паўстаннем 1863 г. і забойствам Аляксандра II. Не жадаючы дадаць нічога новага па сутнасці «ўкраінскага пытання», ён у красавіку 1881 г. передрукаваў уласныя артыкулы дваццацігадовай даўніны з газет «Московские ведомости» і «Современная летопись», перапоўненыя выкрывальніцкім пафасам [6].

Карціна ўкраінафільства, прэзентаваная «Русским вестником», не была статычнай. Змены дэтэрмініраваны смерцю рэдактара М. Каткова ў 1887 г. і змяншэннем цікавасці рускага адукаванага грамадства да «ўкраінскага пытання» ў 1890-я гг. «Русский вестник» страціў былую ваяўнічасць і стаў болей падобным на іншыя кансерватыўныя выданні — «Русское обозрение» і «Наблюдатель», не адмаўляючыся ад негатыўнай ацэнкі ўкраінафільства. Аднак, нягледзячы на пэўнае збліжэнне з астатнімі выданнямі кансерватыўнага скіравання, што праявілася ў змякчэнні пазіцыі «Русского вестника», шэраг адрозненняў заставаўся.

Па-першае, «Русский вестник» ніколі не рабіў паслугу ўкраінамоўным аўтарам, рэцэнзуючы іх творы. «Наблюдатель» трымаўся іншай тактыкі. Пасля неміласэрнай крытыкі (твораў М. Крапіўніцкага, А. Старажэнкі) чытачу заставалася зрабіць выснову, што ўкраінскія пісьменнікі твораць літаратуру ўчарашняга дня, а народная гаворка не ўзнялася да літаратурнай вышыні [7, с. 23]. Па-другое, персанальныя нападкі на ўкраінафілаў. На адрас традыцыйных мішэняў крытыкі «Русского вестника» — М. Кастамарава, П. Куліша — часопіс «Русское обозрение» агучваў іншыя ацэнкі. Яны знаходзіліся, зразумела, у рэчышчы рускага нацыяналізму, але выгадна адрозніваліся ад пошукаў публіцыстамі «Русского вестника» польскага ўплыву і хібаў народнага характару, што прывялі да памылковых высноў. М. Кастамараву «даравалася» большая любоў да малярусаў чым да велікарусаў, належнасць гісторыка да федэралісцкага ўкраінафільства адмаўлялася. Нават выказвалася шкадаванне, што прыхільнікі палітычнага ўкраінафільства глядзелі на М. Кастамарава як на важака [8, с. 157]. Для пацвярджэння незаплямленасці яго рэпутацыі перад адэптамі «вялікай рускай нацыі» прыводзіліся словы гісторыка, сказаныя І. Палімпсеставу аб вялікай ролі малярусаў у стварэнні Расійскай імперыі і шчырым намеры даць асвету ўкраінскім сялянам. Спосаб асветніцтва на ўкраінскай мове ў школе і царкве прызнаваўся памылковым, бо перашкаджаў хуткай інтэграцыі Паўднёвай і Паўночнай Русі. Падобныя ацэнкі агучваліся і ў дачыненні да другога ідэолага ўкраінафільства. Аўтар «Русского обозрения» тлумачыў мары П. Куліша аб самастойнасці Украіны юнацкай няспеласцю, а выдумванне фанетычнага правапісу і працу па перакладзе класікаў рускай і еўрапейскай літаратуры ды Святого Пісання на малярускую мову — клопатам аб замежных суайчынніках [9, с. 194]. Між іншым тэксты  Куліша пераследаваліся аўстрыйскімі ўладамі. Намаганні «рэабілітаваць» М. Кастамарава і П. Куліша сярод кансерватыўнай публікі не былі падтрыманы «Русским вестником».

У 1890-я ды ў пачатку 1900-х гг. «Русский вестник» больш увагі надаваў заходнеўкраінскім падзеям. Наддняпроўскі ўкраінскі рух узгадваўся рэдка, бо ўкраінскія аўтары ўсё часцей аддавалі перавагу друкаванню ў недасяжных для расійскай цэнзуры Львове і Чарнаўцах. Але, напрыклад, пры выхадзе ў свет кніг з падобнай тэматыкай у Расіі часопіс падаваў рэцэнзію або асвятляў у літаратурным аглядзе абмеркаванне ў іншых выданнях работ, што мелі значны рэзананс. Менавіта так сталася з сачыненнем П. Куліша «Отпадение Малороссии от Польши» 1890 г., крытыкаваўся гетман Багдан Хмяльніцкі. І асоба аўтара, які «праславіўся» рэзкай зменай поглядаў на мінуўшчыну Маларосіі і яе патрыётаў, і лаянкавая манера

выкладання думак, і нетрадыцыйнасць выкладзеных пастулатаў прадвызначылі з'яўленне крытычных водгукаў у прэсе, да якіх далучыўся і «Русский вестник». Рэцэнзія прадэманстравала, што кансерватыўная думка не спяшаецца выказваць задавальненне адмовай нават такога вядомага аўтара, як П. Куліш, ад апалагетыкі казацтва і высноў школы М. Кастамарава, неаднойчы бічаванай на старонках «Русского вестника». Важней для выдання аказалася ў каторы раз падкрэсліць ключавую тэзу «агульнарускага» бачання гісторыі: «Богдан и пьяный не переставал умолять о принятии его в московское подданство» [10, с. 304—305].

Акрамя згасання цікавасці да ўкраінскага руху трэба таксама канстатаваць змяншэнне глыбіні аналізу, схематызацыю і прымітывізацыю разважанняў па «ўкраінскім пытанні». Так, гурткі ўкраінафілаў напрыканцы XIX ст. характарызаваліся запар складзенымі з габрэяў, палякаў і немцаў, а для абгрунтавання безальтэрнатыўнасці рускай літаратурнай мовы для ўсходніх славян выкарыстоўваліся традыцыйныя аргументы. Сярод іх — гістарычны (руская мова — агульны набытак усіх трох «плямёнаў» рускага народу), практычны (маларускую гаворку ведьмі складана прыстасаваць да апісання навуковых паняццяў) і тэарэтычны (існаванне літаратурнай украінскай мовы азначала б падзенне адукаванасці па прычыне ўзаемнага адчужэння прадуктыўных сіл і аслабленне палітычнай моцы рускага народу) [11, с. 641]. Нават у гады грамадска-палітычнага ажыўлення ў пачатку XX ст. «Русский вестник» не вярнуўся да сур'ёзнага вывучэння «ўкраінскага пытання» ў новых умовах пачатку XX ст. — маніфеставання палітычых лозунгаў украінства. Украінскі нацыянальны рух узгадваўся ў пераліку іншых цэнтраімклівых плыняў, атрымліваючы іранічныя заўвагі (замест варожых раней) на фоне актывізацыі сепаратыстаў іншых нацыянальных ускраін, якія бачыліся кансерватыўнай думцы больш небяспечнымі для адзінства імперыі. Звяртаюць увагу стрыманы тон часопіса, а таксама шырокае цытаванне матэрыялаў, якія ў каткоўскі перыяд «Русского вестника» з вялікай доляй верагоднасці кваліфікаваліся як недарэчныя ці крамольныя. Сутнасць матэрыялу, перадрукаванага з адэскага часопіса «Южные записки», у тым, што намаганні ўкраінафілаў па ўкраінізацыі самых розных устаноў на тэрыторыі паўднёва-заходніх губерняў на самай справе рыхтуюць глебу да федэралізацыі, але не да абвяшчэння незалежнасці Украіны: «Чем больше будет в России благоприятных условий для развития украинского народа, тем больше будет дорожить этот народ связью со всей Россией, гарантирующей ему свободное национальное и вообще политическое существование. Следовательно, отношение Украйны к России зависит и решается не первой, но второй, — т. е. ее государственной политикой» [12, с. 761—762]. У тым жа нумары быў перадрукаваны тэкст Эмскага ўказа 1876 г. Аляксандра II, суправоджаны спагадлівым да ўкраінскага руху каментарам публіцыста «Сына Отечества». Гэта, аднак, не азначала, што кансерватыўная думка згодна прыняць патрабаванні федэралістаў. Параўнанне ў гегелеўскім духу «рускай царкоўна-дзяржаўнай усясветнай і ўсечалавечнай ідэі» з «вузкаправінцыйнымі ўскраіннымі ідэямі» (г. зн. усімі астатнімі нацыянальнымі праектамі на прасторах Расіі) пераконвала рэдакцыю ў апраўданасці абранага курсу. Гэтак жа аўтарытэт нямецкай філасофіі (цяпер — у асобе Фіхтэ) нібыта сведчыў аб невыпадковасці ўзвышэння рускай мовы над навакольнымі дыялектамі з прычыны гістарычнай неабходнасці. Да канца 1905 г. надрукаваны шэраг аўтанамісцкіх праграм (у тым ліку Украінскай дэмакратычнай партыі) з мэтай інфармавання чытачоў аб дынаміцы нацыянальнага руху. Але задача аналізу нацыянальных працэсаў на Украіне не ставілася.

Вызначэнне колькаснага балансу паміж навуковымі публікацыямі і публіцыстычнымі артыкуламі дазваляе зрабіць важныя высновы. Нязначная колькасць навуковых даследаванняў па маларускай тэматыцы дэманструе, што комплекс праблем, якія спарадзіў перад расійскім грамадствам украінскі нацыянальны рух, разглядаўся ў першую чаргу скрозь прызму дзяржаўных інтарэсаў Расіі. Гэтая акалічнасць адрознівала па «ўкраінскім пытанні» кансерватараў ад ліберальных адмыслоўцаў, якія сур'ёзна займаліся самі або прадастаўлялі магчымасць друкаваць у іх часопісах шмат украіністычных штудый. Адносная кволасць украін-

скага нацыянальнага руху на Падняпроўі не надта заспакойвала кансерватараў, якія бачылі поспехі нацыяналістаў-народаўцаў у аўстрыйскай Галіччыне ва ўмовах больш ліберальнага палітычнага рэжыму. Не давала спакою і тое, што бяскрыўдныя дома наддняпроўскія ўкраінафілы, схаваўшыся пад псеўданімамі і крыптонімамі, друкавалі ў непадцэнзурным галіцкім друку артыкулы з радыкальнымі па расійскіх мерках палітычнымі заклікамі кшталту федэралізацыі імперыі Раманавых, увядзення канстытуцыйнага ладу, аўтанамізацыі ўкраінскай царквы і інш. Негатыўных эмоцый дадавала і павелічэнне колькасці паслядоўнікаў эміграваўшага М. Драгаманава, у тым ліку ў Галіччыне. Друкаваная прадукцыя нелегальна трапляла на тэрыторыю Расійскай імперыі, пашыраючы размах украінскай прапаганды.

Русафільскі рух у Аўстра-Венгрыі ў канцы XIX ст. сутыкаўся з вялікімі цяжкасцямі як на ўнутраным полі (праз абвастрэнне канкурэнцыі з праўкраінскімі сіламі), так і адчуваючы знешні ціск з боку рэгіянальнай і дзяржаўнай улады. Гэта акалічнасць не магла не бянтэжыць іх патронаў у Расіі. Засмучэнне, якое адчувалі рускія кансерватары, звяртаючыся да галіцкіх спраў, прымусіла іх мабілізавацца. Кансерватыўны напрамак грамадскай думкі Расіі — адзіны, які здолеў арганізаваць спецыяльныя выданні, прысвечаныя «замежным суайчыннікам» — усходнім славянам, падданым Габсбургаў. Першай спробай заснавання падобнага часопіса стала стварэнне «Галицко-русского вестника». Усяго выйшла два нумары ў 1894 г., таму рэдакцыя паспела толькі пазначыць праграму выдання. Яна ўключала: інфармаванне расійскага грамадства аб падзеях у «рускіх правінцыях» суседняй дзяржавы, знаёмства з асноўнымі дзеячамі ды інстытуцыямі русафільскага кірунку і папулярызацыя іх дасягненняў у галіне культуры. Ставілася задача ратаваць галічанаў ад польска-езуіцкай прапаганды шляхам мацавання духоўных сувязей з Расіяй. Нават неангажаванаму назіральніку было заўважна, што агульнарускі праект цярпіць паразу ў Галіччыне: «увы, большая часть русских обществ и газет (у Львове. — *А. Я.*), увлекшись украинофильством, играет полякам на руку» [13, с. 24]. У канцы XIX ст. заснаванне часопіса было выклікана жаданнем прывучыць рускую грамадскую думку ўспрымаць у нацыяналістычных катэгорыях «Замежную Русь». Ад поспеху на гэтым шляху залежаў і аб’ём ахвяраванняў, якія маглі акумуляваць шэраг недзяржаўных таварыстваў, што ставілі мэту падтрымліваць прарасійскі рух.

З 1895 г. на базе «Галицко-русского вестника» быў створаны часопіс «Русская беседа», якому нададзена агульнаславянскае гучанне, але з нязменным асвятленнем нацыянальна-рэлігійнага супрацьстаяння ў Галіччыне, Букавіне і Угорскай Русі. Артыкулы, прысвечаныя «австрийским и угорским русским», нязменна пачыналіся гісторыка-геаграфічным нарысам пэўнага краю з указаннем на яго стратэгічнае размяшчэнне і пералікам вызначальных падзей, што ў ранейшыя часы абумовілі прыналежнасць да розных дзяржаў. Акрамя геаграфічнага стратэгічным фактарам лічыўся этнічны склад насельніцтва. Крыніцай «абуджэння» народнай свядомасці славян пазначаных краёў прызнавалася вялікаруская мова, хаця ў справе супрацьстаяння іншым нацыянальным рухам (польскаму, румынскаму і венгерскаму) ужыванне на пісьме заходнеўкраінскіх гаворак не асуджалася. Менавіта руская свядомасць разглядалася ў якасці прыроднай для русінаў, а ўкраінафільства, у залежнасці ад рэгіянальнай спецыфікі, абвяшчалася прыладай разнастайных, але дакладна варожых Расіі сіл.

З аднаго боку, спрэчка паміж руса- і ўкраінафіламі прызнавалася з большага гісторыка-філалагічнай, у якой, натуральна, навуковая «праўда» была за прарасійскім рухам. Лічылася, што немцы ды палякі падлівалі алею ў агонь, спрабуючы выкарыстаць навуковую спрэчку ў палітычных мэтах. Адносна часу, калі іншаземцамі была выдумана асобная ўкраінская народнасць, існавалі варыянты. Паводле аднаго з іх — напярэдадні паўстання 1863 г., а паводле другога, больш вытанчанага, — на 30 гадоў пазней. Украінафілы, выгадаваныя пад заступніцтвам палякаў, прызнаваліся носьбітамі адмоўных якасцей — самалюбства, прагі чыноў і выгод, няцерпнасці да альтэрнатыўнага меркавання, схільнасці да даносніцтва на апанентаў. «У молодежи, проникнутой украйнофильством, стали проявляться легкомыслие, на-

клонность к чувственным удовольствиям, неспособность к дельному труду и жажда легкой наживы», — маляваў карціну маральнага разлажэння небесстаронні назіральнік [14, с. 97].

Стандартны прыём «Русской беседы» пры апісанні палітычнага быцця «рускага замежжа» — апісанне міжпартыйнага супрацьстаяння мясцовых усходнеславянскіх палітычных груповак («рутэнаў», «рускіх» і «сепаратыстаў») як эпічнага супрацьстаяння дабра і зла. Дзейнымі асобамі выводзіліся «палякі» і «Аўстрыя», блізкія паводле прыпісаных ім якасцей да прыродных стыхій міфічнага свету, надзеленых адзінай воляй знішчыць станоўчага героя ці «рускіх», а таксама калектыўную асабістасць. Факты пагадненняў русафілаў з украінафіламі-сацыялістамі ці «падалякамі» — усходнегаліцкімі польскімі кансерватарамі не ўзгадваліся. Падобная мадэль апісання вынікала з таго, што часопіс рэгулярна даваў магчымасць друкавацца на сваіх старонках карэспандэнтам з Падкарпацкай Русі, якія загразлі ў хатняй палітычнай валтузні і пераносілі ўласныя крыўды на апанентаў на старонкі расійскага друку. У выпадку Угорскай Русі назіралася выключэнне, бо рэдакцыі не ўдалося знайсці мясцовага аналітыка для апісання рэгіёна, дзе «влачит свое жалкое существование крайний южный отпрыск великого Русского племени» [15, с. 74]. Ад гэтага чытачы толькі выйгралі, бо за напісанне гістарычнага экскурсу і сучаснага становішча рэгіёна ўзяўся А. Ліпрандзі, таленавіты кансерватыўны публіцыст. Паміж рэха крыўдаў раз-пораз гучалі і рацыянальныя прапановы — аб'яднаць партыі русінаў ці перайсці ад рыторыкі да працы па рэальным уздыме гаротнага эканамічнага становішча галіцкага сялянства.

З усіх дэнацыяналізатараў «замежнай Русі» — палякаў (ва усходняй Галіччыне і Букавіне), венграў (у Закарпацці) і румынаў (у Букавіне) — найбольш талерантна кансерватыўная думка ставілася да апошніх. Гэтаму спрыяла праваслаўнае веравызнанне румынаў, а таксама супольнае супрацьстаянне з польскім рухам. Спецыфіка Букавіны падавалася кансерватыўнай думкай наступным чынам. Рэгіёну пашчасціла, што параўнальна з Галіччынай, колькасць украінафілаў тут была адносна невялікай да пачатку 1880-х гг. Згуртаваўшыся, яны распачалі актыўную дзейнасць, падтрыманыя на непрацяглы перыяд канца 1880-х — пачатку 1890-х гг. краёвай уладай, а таксама заключылі саюз з польскімі таварыствамі [16, с. 157—159]. Аднак замена абласнога прэзідэнта ў 1892 г., які спрыяў іншаму палітычнаму блоку (русафілам і румынам), прыпыніў рост украінафільства. Змяненню сітуацыі не дапамаглі ні непрыстойныя метады змагання, ні прадузятасць да русафілаў аўстрыйскага дзяржапарату.

Кансерватыўная думка знаходзілася ў авангардзе дэманізацыі ўкраінства, але мела для таго ў сваім распараджэнні небагаты выбар інструментаў. Часткова гэта можна патлумачыць тым, што кансерватарам падавалася неймаверным з'яўленне сур'ёзных дамаганняў з боку прадстаўнікоў «адзінаплямённых і адзінаверных» маларусаў на адметнае бачанне ўласнай гісторыі, распрацоўку ўласнай літаратурнай мовы і, наогул, палітызацыю этнічнасці. Маніфеставанне маларусамі паводле паходжання і светаўспрымання вернасці імперыі і яе культуры, дзеля ўзвышэння якой выхадцы з Падняпроўя так шмат зрабілі, толькі зацямняла сутнасць спрэчкі. Клятвы кіяўлянаў ад імя ўсіх добранадзейных элементаў краю ў вернасці рускай літаратурнай мове і імперскай традыцыі гісторыяпісання фарміравалі ў рускага грамадства скрыўленае ўяўленне аб украінскіх актывістах як аб групе бяскрыўдных летуценнікаў.

З іншага боку, рускі кансерватыўны нацыяналізм яшчэ не выкрышталізаваўся ў тэорыю, якая б адназначна ставіла інтарэсы рускай нацыі вышэй за дзяржаўныя ці царкоўныя. Заклікі да грамадства меней спадзявацца на рэпрэсіўную моц дзяржавы, а самастойна даваць адпор украінскаму нацыяналізму былі адносна рэдкімі. Фактар веравызнання перашкаджаў безагаворачна запісаць у суайчыннікі галіцкіх русінаў. З той жа прычыны ў вачах кансерватараў магчымасць духоўнага адасаблення Паўднёвай Русі падавалася малаверагоднай. Лямант адносна планаў украінафілаў украінізаваць усе ўстановы на тэрыторыі Паўднёва-Заходняй Расіі як і запэўніванні ў фундаванні ўкраінства іншаэтнічнымі ўплывамі быў выкліканы хутчэй імкненнем прыцягнуць увагу ўлады, чым вынікам аналізу. Сістэма аргументацыі

зводзілася да наступнага: украінскі нацыянальны рух не патрэбны, бо яго не было раней ды і быць не павінна. Асэнсаванне нацыянальных працэсаў у «Заграні́чнай Русі» не выйшла за межы першапачатковага, апісальнага па характары азнаямлення чытачоў.

## ЛІТАРАТУРА


1. *Де-Пуле, М. Ф.* К истории украйнофильства / М. Ф. Де-Пуле // Русский вестник. 1881. № 3. С. 210—234.
2. *Гогоцкий, С.* Прибавление к статье «Еще несколько слов об украинофилах» / С. Гогоцкий // Русский вестник. 1875. №7. 413—415.
3. *Де-Пуле, М. Ф.* К вопросу об украйнофильстве / М. Ф. Де-Пуле // Русский вестник. 1882. № 2. С. 846—870.
4. *Будилович, А.* Генезис российского украйномана (По поводу львовского издания малорусских «Писаний» Трофима Абрамовича Зиньковского) / А. Будилович // Русский вестник. 1903. № 8. С. 628—640.
5. *Z.* [*Ригельман, Н.*]. Современное украйнофильство / Z. [Н. Ригельман] // Русский вестник. 1875. № 2. С. 818—848.
6. Украйнофильство и г. Костомаров // Русский вестник. 1881. № 4. С. 687—725.
7. Повный сборнык творив М. Л. Кропивницького. Выданя трете. Харьков, 1895 г. // Наблюдатель. 1896. № 2. С. 21—23.
8. *Палимпсестов, И. У.* Из воспоминаний о Николае Ивановиче Костомарове / И. У. Палимпсестов // Русское обозрение. 1895. № 7. С. 155—190.
9. *Шаховский, Н. В.* Памяти П. А. Кулиша / Н. В. Шаховский // Русское обозрение. 1897. № 3. С. 192—227.
10. *Карпов, Геннадий.* В защиту Богдана Хмельницкого. Историко-критические объяснения по поводу сочинения П. А. Кулиша «Отпадение Малороссии от Польши» / Геннадий Карпов. М., 1890 // Русский вестник. 1890. № 2. С. 301—305.
11. *Флоринский, Т.* Малорусский язык и «українсько-руський» литературный сепаратизм / проф. Т. Флоринский // Русский вестник. 1900. № 12. С. 640—642.
12. *Энгельгардт, Н.* Современная летопись / Н. Энгельгардт // Русский вестник. 1905. № 6. С. 731—780.
13. *Сидоров, А.* Из путевых заметок / А. Сидоров // Галицко-русский вестник. 1894. № 2. С. 21—28.
14. Письма из Галичины. Русско-буковинские дела // Русская беседа. 1895. № 8. С. 90—98.
15. *Липранди, А. П.* Забытый уголок Русской земли (Угорская Русь) / А. П. Липранди // Русская беседа. 1896. № 4. С. 74—94.
16. Письма из Галичины. Русско-буковинские дела // Русская беседа. 1895. № 5. С. 150—160.


## РЕЗЮМЕ


Статья посвящена анализу представления сущности украинского национального движения, а также побудительных мотивов и стратегии действий украинских активистов ведущими консервативными изданиями России. Раскрываются мировоззренческие причины неприятия украинской национальной идеи и особенности полемических приемов ее дискредитации со стороны консервативных публицистов.


## SUMMARY


This article analyzes the representation of the essence of the Ukrainian national movement, as well as the motives and strategies of actions of Ukrainian activists leading conservative publications in Russia. Reveals the ideological reasons for rejection of the Ukrainian national idea, and particularly polemical tricks to discredit it by conservative commentators.


Статья поступила в редакцию 7 июня 2011 г.